VERTIGO

# FABLES™

PART 1: RETURN TO THE HOMELANDS




WILLINGHAM
BUCKINGHAM
LEIALOHA

4TH HORDE EMPIRE'S ARMY

ТЫ ПРАЦАЗДОЛЬНЫ І МАЛАДЫ ГОБЛІН, ЖАДАЕШ УЦЯЧЫ АД БУДЗЁННАЙ МІТУСНІ ?

JJ04


no. 36 june 05
suggested for mature readers
vertigocomics.com






Паданні
№36 (2002)
пераклад:
Артур Барадачоў
афармленне:
Сяргей Козыраў
Частка 1: Вяртанне ў Родныя землі.
4-ая арда імперскай арміі


СУСТРЭНЬСЯ СА СВАІМ ВАЕНКОМАМ СЁННЯ!

# Death & Taxes

## Chapter One of HOMELANDS


Bill Willingham: writer-creator
Mark Buckingham: penciller
Steve Leialoha: inker
Daniel Vozzo: colors
Todd Klein: letters
James Jean: cover art
Mariah Huehner: assist. editor
Shelly Bond: editor


*Смерць і Падаткі

Дванаццатая стаіць у **сваім** родным свеце, таму Імперыі не прымушана выдаткоўвацца на перакідку ста тысяч непатрэбных цывільных праз шэраг праходаў.

Падаткі, спадарыня Уолка! **Падаткі**!

Выходзьце выканаць свой **грамадзянскі** абавязак!

Дабрыдзень, спадарыня Уолка.

Хіба не **зарана** вы ў гэтым месяцы?

Не. Шэсцьдзесят тры пенса, калі ласка.

У нас проста **кепска ўзышоў** ураджай кукурузы, не так, як мы разлічвалі.

Ды і зіма была такой **бязлітаснай**.

**Спачуваю**. Давайце грошы.

Шэсцьдзесят тры пенса, паважаная.

І дазвольце заўважыць, спадарыня Уолка, штораз мы чуем ад вас **адну і тую ж гісторыю**.

А **так і ёсць** штораз. Вы адбіраеце ў маіх **дзяцей** апошні кавалак.


Трымайце, і каб вам **удавіцца** гэтымі грашамі.
Да пабачэння, спадарыня Уолка. Убачымся **праз месяц**.
На чым мы спыніліся?
Перавод у дванаццатую.


Так. А ты ведаеш, чаму Уга Рутвагурда з трэцяга атрада клічуць цяпер **ляўшуном**?


Мяркую, таму што ён **застаўся без** правай рукі.
А застаўся ён без яе, калі сяржант Луп злавіў яго за напісаннем рапарта аб **пераводзе**.
Ляўшун можа **пісаць**?
Цяпер **не**.


Сяржант наш старой загартоўкі. Не падабаецца яму, калі жаўнеры ня згодныя з тым, **куды** іх прызначылі служыць.
Таму, калі жадаеш – паспрабуй перавясціся.
А я як-небудзь **перакантуюся** ў нашай чацвёртай ардзе і паспрабую **не трапляцца** на вочы сяржанту-пацучынаму-маркітуну ды і астатнім сяржантам-пацучыным-маркітунам таксама.










«І што гэта?» - запытваю. А яна мне ганарліва: «Курыца».
«Курыца?» - запытваю падазрона. А яна мне: «Ну досыць, паспрабуй. Табе **спадабаецца**, павер. Яна на смак як змяя».
Ну што, я паспрабаваў.
Я ледзь **ня здохнуў**.

Не, сябр мой Трок,
**не жадаю** я пасля вячэры
спяваць каля вогнішча.

Але **дзякуй**
за прапанову.

HAAAAAAARRRRROOOOOOOOOOO!

Ты чуў?

Спакойна, забойца. Напэўна нейкі
звярок пайшоў да сваёй сяброўкі.
У гэтых лясах **досыць** усялякіх
дзіўных жывёлін.

Больш падобна на **паляўнічы** рог.

Мабыць і так. Значыць хтосьці з нашых шаноўных камандзіраў вырашыў **пазабаўляцца**, пакуль мы тут **парабкуем**. Як і заўжды.

Мабыць, ты маеш рацыю, але...

Ну вось. Зноў пачнеш распавядаць свае гісторыі пра **прывідаў**, так?

Гэта не прывіды, Вогрын! Гэта **Чорны рыцар**!

Пачалося...

Кпі колькі пажадаеш, але я чуў гэта ад капрала Кромпа. Чорны рыцар палюе ў тутэйшых лясах, забівае бязвінных зборшчыкаў падаткаў і крадзе ў іх грошы.

А перш чым **з'явіцца**, ён спачатку трубіць у рог.

Апошняе, што ты чуеш, перш чым табе перарэжуць горла.

А Кромп адкуль гэта ведае? У **яго** ж горла **цэлае**.

У мінулым месяцы ён быў на абходзе, збіраў **падаткі**, як і мы.

Ён адлучыўся з лагера па неабходнасці і тут пачуў гук рога.

Вярнуўся - а ўсе хлопцы ляжаць з перарэзанымі горламі. **І зніклі сабраныя грошы**.

А я табе штосьці скажу наконт капрала Кромпа. **Служыў** я разам з ім.
Ён злодзей і хлус. А яшчэ аматар пазабаўляцца з **дробнай свойскай жывёлінай**.
Забіў ён усіх гэтых хлопцаў і забраў грошы.
А твой, як ты кажаш, Чорны рыцар - выдумка, якой ён прыкрываўся перад афіцэрамі-абізгаламі.
Нашыя афіцэры-белаvisualручкі скончылі універсітэты і вераць ва ўсялякую ерась.
І ты туды ж.
Але не вінаваць сябе. Твая маці казала, что цябе часта ўпускалі.
А што, калі гэта праўда?
Так, шаноўны Вогрын, што, калі так і ёсць?
А ты яшчэ хто такі?

Маркую, я і **ёсць** аб'ект непакою спадара Трока.

Зборшчык падаткаў са зборшчыкаў падаткаў, а таксама аматар **знесці** спелыя зялёныя **галовы**.

**Сумняваюся**, што вы радыя мяне бачыць, але я **чорны рыцар**.

Чаму не?

Быць гэтага ня можа!

Ну **па-першае**, ты не апрануты ў **чорнае**.

Гэта так, але ж я не сам выбіраў **мянушку**.

І акрэсліцца **«блакітным рыцарам»** я таксама не магу, таму адкуль я прыйшоў, так называюць прадстаўнікоў закона.

Я і **паловы** таго, што ён сказаў, не зразумеў. Ты хоць **палову** зразумеў?

Каго гэта халюе? Гэта проста **хлопец**!


Забі яго!


Лёгка сказаць, хлопцы.
Адзенне ў мяне сапраўды няпростае.
Абараняе лепей за **чвэрцьцалёвую** браню.
Іншыя ўласцівасці?
Яно змяшчае так шмат **забаўных** рэчаў.
Акрамя драўляных жаўнераў.
Напрыклад, праклён Бармаглота.
SNICKER-SNACK!

Цяпер вы абяззброеныя і на валаску, каб **згубіць галовы**.
Калі мы толькі ня прыйдзем да ўзаемавыгаднага супрацоўніцтва.
Калі мы тут скончым, я папрашу вас пайсці назад і **вярнуць** усе грошы.
Але спачатку мне неабходна штосьці даведацца.
Месцазнаходжанне брамы адсюль у іншыя светы Імперыі.
Склад і размяшчэнне войскаў.
Як прайсці да палацу валадара гэтай вобласці.
Апроч **іншага**.
Не атрымаецца.
Лепш мы цябе **пасячэм**!
Каб цябе.

Мінуюць дні.

У свеце ёсць такое дзіва:

Дзесьці ўспеніцца бурліва






Трыццаць тры асілкі ў рад Стануць, нібы з братам брат,

Ды прыгожыя якія — Веліканы маладыя,

І усе, як на падбор, З імі дзядзька Чарнамор

Кожны скажа справядліва: Гэта дзіва, то ўжо дзіва! Госці спрэчак не вядуць,

Моўчкі мёд і піва п'юць.

А?

Хто тут?

**Выходзь**!

Як пажадаеш.
Я і так збіраўся **перапыніць** тваё няскладнае мармытанне.
Вядзьмарства!
Зразумей мяне правільна, я таксама лічу, што вершы, для найбольшага смаку, лепш чытаць услых.
Але толькі **добрыя** вершы.
Ты **хто** такі?
Твой верш не толькі жудасны, але і хлуслівы.
Я **быў** там, і мы абодва **ведаем**, што ўсё было інакш. Мае хаўруснікі **перамаглі**.






Адкажы, няпрошаны госць, што табе **трэба**, ды хутчэй, каб я працаў цябе і вярнуўся да справы.

Але **ты** мне не патрэбны. Мне неабходна атрымаць **доступ** у тваю бібліятэку.

Афіцыйныя мапы, графікі і запісы - аналы Імперыі, толькі не такія мудрагелістыя, якія табе падабаюцца.

Ну па-першае, у тваёй арміі засталася **крыху** гоблінаў.

Ты будзеш рады пачуць, што амаль усе з іх былі табе **адданыя**. Я быў вымушаны забіць шмат з іх, пакуль адзін нарэшце не паказаў мне дарогу сюды.

Але каб прагледзець іх няспешна, мне неабходны час, і гэта, баюся, значыць, што цябе трэба будзе **забіць** і заняць тваё месца.

Ды як ты **можаш** прымаць маё аблічча?

Гэта незаконнае выкарыстанне магіі!

Дык падай на мяне ў суд.

ГРРРРРРРРРЫХ

SNICKER-SNACK!

Праз два тыдні.

Дарогу свіце генерал-губернатара!

З дакументамі ўсё добра.



Ва ўсялякім выпадку, капітан, учынкі высокапастаўленых асоб - не **вашая** справа.
Адчыніце браму, пакуль гэты абавязак не перадалі каму-небудзь іншаму. Вы зразумелі?
Зразумеў, ваша сіяцельства.
Зараз жа.
Далей я пайду адзін, прем'ер-міністр Камаранд. Вяртайся назад і чакай загад.
Але, ваша сіяцельства, шлях **небяспечны**!
Але ўсё ж...
Немажліва!
Падпарадкуйся. Ідзі дадому. Кіруй да майго вяртання.
І яшчэ, па-першае, скараці ўсе падаткі напалову. Паўсюль.
Гэта **загад**.

Лайно.
Як жа я адразу ня скеміў.
Трэба было загадаць усім жаўнерам чацвёртай арды навучыцца спяваць і танчыць чачотку. І сказаць, каб баявы сцяг у іх быў **ружовым**.
Так, ня самае **ўтульнае** мястэчка, хіба не?

Але мне неабходна трапіць да Імператара з чорнага ўваходу.

Адразу відаць, даўно нікога не было тут на гэтай журботнай зямлі.

Трэба ісці, Пастушок, а то ты **сам з сабой разгаварыўся**.

Такім чынам гэты **жудасны** край хутка апынецца ў мінулым.

Доўгія гадзіны
ператвараліся ў дні.
Тыя
ў тыдні.
Здаецца,
гэта тут.
Панурае
мястэчка.
Зусім ня
ўтульна.
**Не падабаецца**
яно мне.


Зусім не
падабаецца.
Але пакольки
лёс не дапамагае
баязлівым...
адразу ж **рухаемся**
далей.
Добра,
што я **захаваў**
**паходню**.
Во, там,
наперадзе,
святло?




**Далей:**
Сіндром СВ. Георгія.